NIWA" TYGODNIK BIAŁORUSKI — CENA 60 gr.

# Ніва

№ 13 (57) БЕЛАСТОК, 31 САКАВІКА 1957 г. ГОД II

Мгр. М. КАНАПАЦКІ

# Пытанне „Нашай Нівы" у беларускай совецкай крытыцы



*Дом паляўнічых у Белавежы.* *Фото — А. О.*

Перад беларускай крытыкай і літаратуразнаўствам стаіць яшчэ многа нераспрацаваных пытанняў. Датычыць гэта ў прыватнасці гісторыі беларускага друку пачатку XX стагоддзя, аб якім у Совецкай Беларусі няма ніякай грунтоўнай навуковай працы.

Высвятленне гэтага пытання можа прынясці вялікую дапамогу ў больш грунтоўным вывучэнні беларускай літаратуры дакастрычніцкага перыяду. Не трэба забываць аб тым, што рост беларускай дэмакратычнай літаратуры на пачатку XX ст. супадае з барацьбой за права існавання беларускага друкаванага слова, за першааснову літаратуры, якой з'яўляецца мова. Без мовы — нацыянальнай формы — немагчыма развіваць нацыянальную літаратуру.

Агульна вядомы факт, з якой заўзятасцю царскі ўрад, рускія і польскія вялікадзяржаўнікі на працягу свайго шматвяковага панавання на Беларусі стараліся задушыць беларускую культуру, забіць пачуццё нацыянальнай годнасці ў беларусаў, а асабліва знішчыць іх мову.

Паміж далёкім мінулым беларускай мовы і яе дарэвалюцыйным станам ляжыць вялікі гістарычны перыяд, у які было зусім спынена развіццё беларускага друкаванага слова. А калі ў ходзе першай буржуазна - дэмакратычнай рэвалюцыі 1905—1907 г.г. пачаў зараджацца легальны нацыянальны друк, калі паявіліся першыя беларускія газеты «Наша доля» і «Наша ніва», рускія і польскія нацыяналісты заўзята напалі на беларускі друк; яны адмаўлялі самастойнасць беларускай мовы, бачачы ў ёй толькі дыялект, першыя — рускай мовы, а другія — польскай.

Усе намаганні ворагаў беларускай мовы ішлі ў тым напрамку, каб усялякімі псеўданавуковымі доказамі спыніць яе развіццё. Шматлікія органы рускіх нацыяналістаў называлі імкненне беларусаў мець свае газеты польскай інтрыгай, а ў сваю чаргу органы польскіх нацыяналістаў у беларускім друку бачылі рускую руку, накіраваную супроць Польшчы. І таму трэба выразна ўявіць сабе тыя жорсткія ўмовы, у якіх развівалася беларускае друкаванае слова на пярэдадні Вялікай Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі.

Ля вытокаў творчасці многіх беларускіх дэмакратычных пісьменнікаў, ля вытокаў беларускай літаратурнай крытыкі, ці развіцця сучаснай беларускай мовы знаходзяцца «Наша доля», а асабліва «Наша ніва», якая праіснавала ад 1906 да 1915 гг. І вось аб гэтых газетах няма зусім ніякай працы. Ніхто з беларускіх літаратуразнаўцаў не займаўся гэтым, бязумоўна, складаным пытаннем. Гэты факт знаходзіцца ў цесных суадносінах з адставаннем беларускай крытыкі і літаратуразнаўства ад запатрабаванняў жыцця, са шкоднымі ў іх праяўленнямі дагматызму.

Беларускі літаратуразнаўца Ю. Пшыркоў у артыкуле «Глыбей вывучаць гісторыю літаратуры», змешчаным у мінулым годзе ў органе Міністэрства культуры і Праўлення Саюза пісьменнікаў БССР «Літаратура і мастацтва» (№ 31, 1956 г.), піша аб несумяшчальным з сапраўднай навукай схематызме, які яшчэ пакутуе ў беларускіх крытыкаў і прыносіць многа шкоды, спыняючы творчую барацьбу думак і напрамкаў.

Аўтар артыкула бачыць гэту шкоднасць у тым, што беларускія крытыкі і літаратуразнаўцы прывыклі ацэньваць многія факты па загадзя надуманай схеме. Яны або рашуча асуджалі тое, што не заслугоўвае асуджэння, або захвалялі тое, што зусім не вартае пахвалы.

Праз два тыдні ў «Літаратуры і мастацтве» (№ 33, 1956 г.) паявіўся артыкул у якім ацэньвалася стан беларускай крытыкі і літаратуразнаўства. Я маю на ўвазе артыкул Р. Шкрабы пад загалоўкам «За творчае развіццё крытыкі і літаратуразнаўства». Думкі аўтара ў пераважнасці супадаюць з думкамі Пшыркова. Шкраба звяртае ўвагу на школьныя праяўленні дагматызму і схаластыкі ў беларускім літаратуразнаўстве, якія былі прычынай таго, што многія факты або не прымаліся пад увагу, або падганяліся пад загадзя прыдуманую схему. Шкраба пішучы, аб некаторых нераспрацаваных спрэчных пытаннях беларускай літаратуры, бачыць сярод іх і «Нашу ніву». У артыкуле між іншым чытаем: «Ды і асвятленне газеты «Наша ніва» у курсе гісторыі літаратуры вельмі павярхоўнае. Ніхто з літаратуразнаўцаў не можа сказаць, што ён грунтоўна займаўся гэтым пытаннем. У нас ёсць прыхільнікі ацэнкі «Нашай нівы», якая дадзена ёй на старонках «Гісторыі БССР» (У першым томе «Гісторыі БССР» — выд. 1955 г. — «Наша ніва» лічыцца газетай, якая адыграла толькі рэакцыйную ролю — заўвага МК), ёсць і праціўнікі гэтай ацэнкі.

Чаму-б Інстытуту літаратуры і мастацтва не арганізаваць творчыя спрэчкі, каб даць людзям магчымасць выказацца па гэтаму пытанню. Спрэчкі ва ўсеўзбраенні фактаў, пасля грунтоўнага вывучэння першакрыніц далі-б магчымасць прыйсці да агульных вывадаў».

Бачым цяпер да чаго давёў схематызм. Няма рашучага, адзінага адказу адносна ацэнкі першай беларускай газеты. Сфармаваліся нават аддзельныя плыні па гэтаму пытанню. Здаецца, што гісторыкі займаюць адно становішча, а літаратуразнаўцы другое — супроцьлеглае. Зусім зразумела, што могуць быць такія ці іншыя погляды на розныя справы. Аднак у гэтым выпадку павінен быць адзін адказ і ўжо час яго знайсці.

Чаму? Таму што, напрыклад, вывучаючы вытокі беларускай дэмакратычнай крытыкі нельга не звярнуцца да «Нашай нівы», або вывучаючы вытокі беларускай літаратуры і культуры пачатку XX ст. нельга не заглянуць на старонкі гэтай газеты. А якжа можна з партыйнай прынцыповасцю ацэньваць многія факты не маючы яснага погляду на характар і ролю першакрыніцы, якой бязумоўна, «Наша ніва» з'яўляецца.

Як-жа можна прыйсці да абагульнення пэўных літаратурных з'яў без сканкрэтызаванага навуковага погляду на «Нашу ніву». Шкраба дамагаецца спрэчак па гэтаму пытанню.

І гэта неадкладная справа, міма якой нельга спакойна прайсці. Такім чынам ствараецца дзіўная сітуацыя. Заўзятыя ворагі ў свой час «вывучалі» беларускі друк, каб вышукаць усе «навуковыя аргументы» супроць права на яго існаванне, а сёння-ж гэтая дарагая ўсім беларусам спадчына не вывучаецца самымі беларусамі з мэтай паказаць яе вялікую жыццёвую сілу, якая супроцьпаставілася ўсім нагонкам і благім намерам рускіх і польскіх нацыяналістаў.

Таму кожны голас у беларускай літаратурнай крытыцы, які хаця-б часткова закранае пытанне «Нашай нівы», павінен прыцягваць нашу ўвагу.

У канцы мінулага года на старонках «Літаратуры і мастацтва» (№ 47, 1956 г.) паявіўся крытычны нарыс вядомага беларускага літаратуразнаўцы Міхася Ларчанкі «Некаторыя пытанні гісторыі беларускай літаратуры» у якім, між іншым, гаворыцца аб характары і значэнні «Нашай нівы». У гэтым годзе, у студзеньскім нумары газета «Звязда» (№ 10, 1957 г.), змясціла артыкул Л. Абецэдарскага і А. Сідарэнкі, якія выказваюць свае погляды адносна артыкула М. Ларчанкі.

Гэтыя два артыкулы сведчаць аб тым, што пытанне «Нашай нівы» не перастае хваляваць беларускую грамадскасць. Аднак падыход да яго астаецца амаль такім, якім быў да гэтага часу. Паўтараюцца тыя самыя грахі пры ацэнцы літаратурных з'яў, а што горш яшчэ, у выпадку другога артыкула паяўляюцца спробы затармазіць творчую барацьбу думак і напрамкаў.

Са сваімі думкамі адносна гэтых артыкулаў падзялюся з чытачамі ў наступным нумары «Нівы».

ШТОТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

## КАРЫСНА І ЦІКАВА

### Як адмаладзіць старое дрэва

Старыя фруктовыя дрэвы можна яшчэ абудзіць да жыцця і пладанашэння. — Як? — спытаеце. Трэба толькі ўнесці багатае ўгнаенне (натуральны гной — да 1 цэнт. на 1 дрэва або мінеральнае азотнае ўгнаенне — каля 6 кг).

А калі гэта не паможа, дык патрэбна прымяніць адпаведнае прарэзванне кароны.

Прарэзванне трэба распачаць з ачышчэння дрэва ад хворых галін. Пасля, каб адмаладзіць дрэва і пабудзіць яго да росту, патрэбна ўсе (толькі не адразу!) таўсцейшыя і танчэйшыя галіны скараціць на 1/3, а нават і да палавіны. Гэта прымушае дрэва даваць маладыя парасткі — пачынае багата цвісці і пладанасіць, дае больш буйнейшыя і прыгожыя фрукты.

Такія «аперацыі» найлепш рабіць на працвесні або ранняй вясною.

Адпаведнае прарэзанне дрэў і добрае ўгнаенне — дае вельмі добрыя вынікі.

УВАГА! — такую «аперацыю» трэба правесці на працягу не менш 2—3 год.

Потым нават з 30-гадовай яблыні можна атрымліваць праз некалькі год ад 2 да 3 цэнтнераў яблык.

P. S. Адмалоджванне дрэва дасць толькі тады належныя вынікі, калі яно ёсць здаровае і раней добра пладаносіла.

Такія «аперацыі» можна праводзіць таксама і на старых ягадавых кустах (парэчкі, агрэст) — з той толькі розніцай, што не трэба тут даваць угнаення.

Шырэй аб гэтым зацікаўлены чытач можа прачытаць у наступных садоўніцкіх кніжках і выданнях: «Сад» — Пенёнжэк; «Сад» — Гарычкоўскі; часопіс «Гасло» і «Плён» з месяца сакавік г. г. Дастаць іх можна ў кожнай сельскагаспадарчай кнігарні.

(ся)



### Масла ў парашку

Хто ведае, ці часам праз некалькі год замест мазаць хлеб маслам, будзем яго ім... пасыпваць!

Цяпер у Злучаных Штатах Амерыкі праводзяцца выпрабаванні з вырабам сыпкага масла. Вынікі гэтых выпрабаванняў быццамбы здавальняючыя. У атрыманым прадукце ёсць 72 прац. уласцівага масла і 28 прац. спарашкаванага малака.

Новы род масла вельмі ўстойлівы на гніццё.



Грозныя з'явы прыроды

## Паводкі

Затапленне мясцовасці ў выніку падняцця ўзроўню вады ў рацэ або моры можа быць выклікана рознымі прычынамі. Адной з іх з'яўляецца рэзкае павелічэнне колькасці вады ў рацэ, у выніку раставання снегу, або выпадання вялікіх ападкаў. Раптоўна наступіўшая адліга, якая суправаджаецца да таго-ж выпадзеннем інтэнсіўных ападкаў можа прывесці да катастрафічнага разліву рэк.

Часам паводкі выклікаюцца павышэннем узроўню вады ў рацэ ў выніку загрувашчвання рэчышча лёдам пры ледаходзе. Гэта ў асноўным характэрна для многіх нашых рэк.

У вусцях рэк, якія ўпадаюць у мора, паводкі нярэдка ўзнікаюць пад дзеяннем нагонных вятроў, што выклікаюць павышэнне ўзроўню за кошт затрымкі ў вусці ракі прыцякаючай зверху вады, г. зн. моцны вецер з мора нібы гоніць ваду ў рацэ назад. Паводкі такога тыпу нярэдкія ў Ленінградзе Найбольшая з іх была ў 1824 годзе і другая — у 1924 годзе, калі ўзровень вады ў Неве падымаўся вышэй сярэдняга прыкладна на 4 метры. У 1952 годзе адбылася катастрафічная паводка нагоннага тыпу на марскім узбярэжжы Еўропы, у выніку якой трэцяя частка тэрыторыі Галандыі аказалася залітай вадой.

На марскіх узбярэжжах і астравах паводкі могуць таксама ўзнікнуць пры землетрасеннях або вывяржэннях вулканаў. Пароджаныя пры гэтым хвалі дасягаюць велізарнай вышыні (часам 35 метраў) і валодаюць каласальнай разбуральнай сілай.

Паводкі ў большасці выпадкаў страшэнны сваёй раптоўнасцю, але катастрафічныя іх вынікі могуць быць значна зменшаны пры загадзя прынятых мерах.



*На вечары беларускай паэзіі і песні ў Варшаве быў сарганізаваны кірмаш беларускімі выдавецтвамі ў Польшчы.*

*На здымку: студэнткі беларускай філалогіі і дзеяч Варшаўскага Аддзела БГ-КТ П. Ластаўка прадаюць беларускія календары.*

Які госць такая яму і чэсць

### Як падаецца руку?

Непрыгожа падаваць руку, памалу, нядбайна ўтыкаючы яе ў руку другой асобы, або ізноў падаваць толькі штыўныя як драты пальцы. Трэба падаць руку адважна, выразна ўсціснуць другую руку, але не надта ізноў моцна і патрасаць рукой другой асобы надта доўга не трэба — гэтак брыдка.

Перш падае руку асоба пажылая малодшай, жанчына мужчыне, прафесар студэнту.

Калі ўваходзім у пакой, дзе ўсе працуюць — то хоць яны і знаёмы аднак не вітаемся, бо падаючы руку, будзем адрываць іх ад працы, а гэтак рабіць — непрыгожа. Хопіць сказаць усім «добры дзень» і прывітацца толькі з асобай да якой маем справу. Калі прыходзім да каго на кватэру, — то перш за ўсіх вітаем гаспадыню хаты.

Жанчына не павінна ўставаць, калі вітаецца з мужчынай, або жанчынай, мала старэйшай ад сябе. Гэта вельмі важнае! Аднак, калі вітаецца з жанчынай значна старэйшай — злёгку прыўстае, а вітаючыся з асобамі пажылымі, або асобамі, якім павінна паказаць асаблівую пашану — тады ўстае.

Калі ўваходзіць у кватэру госць, а ўсе ўжо сядзяць за сталом — гаспадыня павінна ўстаць, калі гэта будзе жанчына, нават хоць малодшая ад яе, а калі мужчына — можа не ўставаць. Мужчына вітаючыся з жанчынай, або нават і з мужчынай — павінен устаць. Не мае абавязку ўставаць толькі тады, калі прыбылы будзе значна малодшы, або блізкі прыяцель.

Калі вітаемся на вуліцы не трэба здымаць рукавіц — гэта ўсе павінны моцна запамятаць.

Далейшыя ўказанні прачытаеце ў наступным нумары.

(бз)

### Ад калі людзі голяцца

Галенне мае даволі доўгую гісторыю. У далёкім мінулым, як даказваюць мастацкія творы, (разьба і жывапіс) людзі ведалі як галіцца.

Няма сумнення, што галенне моднае было ўжо ў Рыме.

Мода існуе шмат гадоў, і напэўна вызначала спосаб, як трэба паводзіць сябе на рымскім рынку, так як і сёння акрэслівае гэта варшаўская вуліца.

Сярэдневякоўе прынясло шмат змен у гэтай галіне. Вольныя людзі носяць валасы на галаве, а таксама бараду і вусы. Падданыя мусяць стрыгчы валасы і галіцца. Калі каму-небудзь, з прыпісаных да зямлі, хацелася ўцячы — лёгка яго было распазнаць па астрыжанай галаве.

Спосаб нашэння барады і вусаў вызначала, аднак, заўсёды мода. Напрыклад, коратка прыстрыжаныя бароды ўвёў французскі кароль Францішак I, а так званы «іспанскі» — дынастыя Валезіяў. Белыя парыкі, па-майстэрску ўложаныя вядомымі ў гэтай галіне спецыялістамі, уводзіць таксама французскі кароль — Луі XIV.

Варта прыпомніць, што апрача моды, у справе вусоў і барады, важным быў голас і паасобных рэлігіяў. Некаторыя з сярод іх забаранялі галіцца (напрыклад у артадаксыйных яўрэяў), іншыя прыпаміналі аб абавязку галення (напрыклад у каталіцкага духавенства).

## ОРЛЯ

Невялікая сёння, больш падобная на асаду, чым мястэчка, Орля, ляжыць у аддегласці 14 км. на поўднёвы ўсход ад Бельска - Падляскага злучаная з ім шырокім выгодным трактам.

Як паказвае вялікая колькасць знойдзеных прадметаў і каменнай зброі, Орля — гэта відавочна вельмі старая асада. Магчыма, што існавала яна нават і ў дагістарычныя часы, але няма аб гэтым ніякіх звестак.

Першая гістарычная нататка паходзіць з пачатку XVI стагоддзя. Вось у 1529 годзе тагачасны ўладар навакольных маёнткаў—беларускі магнат Богуш Багавітыновіч запісаў у завяшчанні Орлю найстаршай сваёй дачцы Ганне, якая выходзячы замуж за Станіслава Тэнчынскага — сына Івана, прыдворнага маршала, унесла Орлю ў маёмасць свайго мужа разам з іншымі, як пасаг.

Межы маёмасцей Орлі не былі тады яшчэ ўстаноўленыя і гэта з'яўлялася прычынай частых спрэчак з каралевай Бонай, ва ўладанню якой знаходзіўся тады Бельск - Падляскі. Хутка дайшло да таго, што ў гэтыя спрэчкі быў вымушаны ўвайсці сам кароль Зыгмунт I, рэгулюючы іх спецыяльнай пастановай. Пазней мястэчка часта змянала ўладальнікаў аж урэшце, пасля розных судавых працэсаў, сталася ўласнасцю Хрыстафора Радзівіла — вялікага літоўскага гетмана.

У 1622 годзе ў Орлі пабудавана замак, па якім сёння не засталося нават і следу. 17 кастрычніка 1634 года Хрыстафор Радзівіл надаў асадзе гарадское права, заснаваў суд, а таксама кірмашы.

Цяжкім ударам для далейшага развіцця мястэчка быў шведскі «патоп» падчас панавання караля Яна Казіміра. Вось 18 жніўня 1655 года тагочасны ўладар Орлі, усім вядомы беларускі князь Януш Радзівіл перайшоў на бок шведаў. У Орлю прыбыў гарнізон шведскіх войскаў. Аднак слаўныя ў грабежах шведскія жаўнеры выклікалі такое абурэнне сярод насельніцтва мястэчка і яго аколіц, што выбух супроць іх бунт. У барацьбе загінуў завіхільны служка Радзівілаў — падстараста Пшынскі, а таксама цэлы мясцовы шведскі гарнізон і часць прыватных радзівілаўскіх войскаў. Уся арлянская маёмасць, як уласнасць здраднікаў была канфіскавана. Аднак пасля заканчэння польска - шведскай вайны ізноў ім звернута.

Праз цэлае XVII стагоддзе славілася Орля, як асяроддзе пратэстанцкага веравызнання на цэлым Падлясі. Радзівілы — вызнаўцы і пратэктары кальвінскага веравызнання, пабудавалі ў Орлі прыгожы збор, у якім часта адбываліся генеральныя з'езды пратэстантаў з усёй Польшчы і Літвы.

Асабліва важным — найбольш слаўтым быў з'езд у 1644 годзе, старшынёй якога быў сам князь Януш Радзівіл. На гэтым з'ездзе ўстаноўлена была ўмова нарады з кіраўнікамі каталікаў у Торуні, на якую кароль Уладыслаў IV запрасціў пратэстантаў і каталікаў.

Пасля шведскіх войнаў Орля, як цэнтр кальвінскага руху, занепала. Большасць вызнаўцаў гэтага веравызнання была вынішчана, або прымушана прыняць каталіцызм, бо вызнаўцаў гэтага веравызнання лічылася прыхільнікамі здраднікаў Радзівілаў. Ужо ў 1704 годзе пры тутэйшым зборы не было сталага пастара і толькі час-ад-часу прыязджаў туды падляскі канслер. Адсюль і паўстае вострае праследаванне кальвіністаў з боку каталіцкага духавенства. Дайшло да таго, што калі ў 1726 годзе павешана ў мясцовым зборы новы звон — то тагочасны Лодзкі епіскап загадаў адклікаць збор і забраць звон. Яшчэ ў 1732 годзе мясцовы збор знаходзіўся ва ўладанні кальвінаў, аднак потым перайшоў на ўласнасць мясцовых яўрэяў, якія перарабілі яго на сінагогу.

Легенда гаворыць, што даўно кальвінскі збор быў куплены ад Радзівіла за 10.000 грашакоў. Яўрэі доўга дакучалі жонцы Радзівіла, імкнуліся адкупіць ад яе даўно ўжо пусты збор. Нарэшце, каб адчапіцца ад іх, Радзівілава згадзілася прадаць непатрэбны ёй збор, пры ўмове, што яны праз гадзіну прынясуць 10.000 грошай самымі грашакамі. Невядома, якім спосабам яўрэі выканалі гэтую вельмі цяжкую задачу, грашакі сабралі і збор перайшоў у іх уладанне. Перарабілі, яго на сінагогу. У 1775 годзе ў Орлі было 90 дамоў.

У XIX стагоддзі Орля, як пасаг дачкі Радзівіла, перайшла ва ўладанне князя Вітгенштэйнаў. У 1878 годзе налічвала 2.351 жыхароў, а перад II сусветнай вайной — 3.500 жыхароў.

У гісторыі рабочага руху, між першай а другой сусветнымі войнамі, Орля з'яўлялася цэнтрам дзейнасці Комуністычнай партыі Заходняй Беларусі.

Падчас II сусветнай вайны большасць жыхароў Орлі была так вынішчана гітлераўскімі захопнікамі, што мястэчка занепала да ролі звычайнай вясковай асады.

ЯКУБ АНТАНЮК




**Плады адукацыі**



— Што здарылася?
— Ізноў бацька мне ўрокаў не падрыхтаваў.
*(Кракадзіл)*

## Міс Беластока

Толькі ўвайшоў я ў хату, а жонка ўжо пытае мяне: — Ці ведаеш, што патрэбнае для таго, каб заняць першае месца ў конкурсе на «Міс Беластока»?

Сустрэўшыся з маім гнеўным позіркам, перможна заявіла: — Норма Сыкес з Манчэстэра — як піша «Беластоцкая газета» — мае ў бюсце 104 см, а я 175.

— Можаш паспрабаваць шчасця ў міліцыі, паводле ўзросту падыходзіш — пацешыў я жонку і спытаў ці гатовы абел.

— Перакусі што-небудзь, сёння не мела грошай на абед, бо пашыла сабе новы купальны касцюм — адказала.

— З глузду з'ехала, у сакавіку-ж ніхто не купаецца — крыкнуў я, але жонка не звяртаючы ўвагі на мае словы выйшла з пакоя.

Пачаў я шнырыць, каб знайсці што-небудзь з'есці, аж-но тут, неспадзявана, уваходзіць мая жонка ў купальным касцюме.

Кінуліся ў вочы яркія, чырвоныя макавыя кветкі на фоне чорнага атласу.

— Скажы, вазьму я прыз на конкурсе? — спытала жонка, выкручваючыся перада мной.

— На сельскагаспадарчай выстаўцы табе-б прызналі-б першае месца, — сказаў я паглядзеўшы на яе тушу.

— Глупствы гаворыш, мужчыны любяць абцякальныя формы, — упэўнена заявіла жонка.

— Так, але ў цябе ўжо формы ўцякальныя...

— Ты нічога не разумееш, — і стаўшы з выцягнутымі рукамі, быццам-бы яна толькі што птушку з іх выпусціла, — спытала:

— Як думаеш, такі здымак будзе эфектны?

— Як будзеш трымаць у руках не голуба, а індзюка — тады й эфект будзе.

— Як хочаш, а я сёння падаю сваю кандыдатуру.

— Можаш падаваць, у нас, у Беластоку, шмат чаго смешнага робіцца.

Між намі кажучы, у яркім, купальным касцюме жонка кідаецца ў вочы, лініі ў яе такія выразныя, ці-ж можна ручацца за густ членаў журы?

Чым чорт не жартуе, дзякуючы жонцы і я буду вядомым у нашым горадзе.

*Дзядзька Лявонь*

## ДАПАМАГЛА

(З мінулага)

У кірмашовы дзень Цыпрук наладаваўшы воз, разам з жонкай паехаў у горад. У горадзе заехалі да знаёмага Бэркі - балагола, і распрогшы кабылу пайшлі на кірмаш.

Праходзячы па плошчы, дзе ўзвышаўся помнік цару Аляксандру II, Цыпрук у здзіўленні спыніўся, паскроб па патыліцы.

— Глядзі, Агата, што гэта за пудзіла? Ну і дзіўнае, бадай яго заела гразь!

І тут нечакана на яго плячо лягла цяжкая рука гарадавога.

— А ну, галубок, паўтары, што ты сказаў, — грозным голасам прамовіў чын. — Пойдзем са мной.

— Мой паночку, мой даражэнькі, — заступілася Агата, каб дапамагчы мужу ў бядзе, — не зважайце на гэтага дурня. Ён-жа дурны як бот. Я-ж і сама колькі разоў яму гаварыла, каб не чапаў усякай дрэні.

А. Тр.

### Не мае права

Дзяўчына ў краме залатых рэчаў да кліента

— Купіце, пане, гэты прыгожы нашыйнік для асобы, якую вы любіце.

— Не, — адказвае кліент. — Так рабіць мне не можна, бо я жанаты.

Ж. Д.

### Высокая заплата

Селяніну забалеў зуб. Пайшоў ён да фельчарадантыстага. Пасля аперацыі пытаецца:

— Колькі вам, пане, заплаціць за зуб?

— 15 злоты.

— Больш пяцёркі не дам, а калі мала, дык можаце ізноў уставіць зуб на старое месца. Жартачкі, за адзін зуб ды 15 злоты! Ды я вам за залатоўку ўсе зубы павырываю, — ні аднюсенькі не застанецца.

Я. З.

### У судзе

— Калі вы нарадзіліся?

— Не ведаю дакладна, пане суддзя. Гэта было даўно, гадоў 30—40 таму назад, калі мая нябожчыца маці жыла.

Т. Б.

### Падзяка

Чалавек спяшае на цягнік. Спатыкае незнаёмага і пытае:

— Выбачайце, пане, якая гадзіна?

— Пяць мінут пасля шостай.

— А каб табе язык спух! Спазніўся на цягнік.

А. М.

*Без надпісу*

## Вечарком за рэчкаю...




Вечарком за рэчкаю, эх!
Вечарком за рэчкаю
Песенька гучыць,
Эх, ды выйду,
Выйду я на ганачак, (2)
Маці, не крычы,
Эх, ды, маці, не крычы!

Мілага прыгожага, эх!
Мілага прыгожага
Успамінаю я,
Эх, ды пра яго і
Пра яго і складзена (2)
Песенька мая,
Эх, ды песенька мая.

Дзяўчыну не кінуў ён, эх!
Дзяўчыну не кінуў ён,
Хоць і сам бядняк,
Эх, ды ён паехаў,
Ён паехаў восенню (2)
У горад на рабфак,
Эх, у горад на рабфак

А ўчора з горада, эх!
А ўчора з горада
Ліст ён мне прыслаў,
Эх, пры развітанні,
Што пры развітанні (2)
Мілай абяцаў,
Эх, ды мілай абяцаў.

## ПАДУМАЙ І АДКАЖЫ

Хто такі Кастусь Каліноўскі, калі ён жыў і што рабіў?

Хто такі Францішак Багушэвіч і калі ён нарадзіўся?

Хто такі Францішак Скарына і калі ён памёр?

Сярод тых, якія да 10 красавіка г. г. прышлюць правільныя адказы — будзе разыграна 10 кніжных узнагарод.

### Развязка адгаданкі з 9 нумара „Нівы"

Развязка: Надзя, Ізыдар, Васіль, Андрэй, — «Ніва».

Кніжныя ўзнагароды атрымалі: 1) Васіль Сухач — Харошча, Беластоцкае ваяводства, 2) Міхась Пракапчук — Свідзялоўка, Беластоцкае ваяводства, 3) Валя Кандрацюк—Н. Гайнаўка, Беластоцкае ваяводства, 4) Н. Палунічаў — БССР (Мінск), 5) Мар'ян Свехоўскі — Бліжняе Прадмесце, Келецкае ваяводства, 6) Андрэй Беразоўскі — Шчытна, Ольштынскае ваяводства, 7) Аляксандр Курыла — Крынкі, Беластоцкае ваяводства, 8) Нікадым Семятоўскі — Сакалец, Вроцлаўскае ваяводства, 9) Мечыслаў Болтрык — Смольня, Беластоцкае ваяводства, 10) Ірына Міранюк — Дэніскі, Беластоцкае ваяводства.

## АГАФОН АБРОТКА ЦЕШЫЦЦА



*Пры століку сакратар —*
*Рэдакцыйны гаспадар;*
*Пры рабоце надта шчэры,*
*Мерыць меркаю паперы.*



*Рух якісь у журналістаў,*
*Шмат ідзе паперы чыстай.*
*Усе стараюцца. Хутчэй*
*Нешта пішуць для дзяцей.*



*Сядзіць Агафон з галоўным,*
*Гаворыць як роўны з роўным*
*Усё Абротка распытаўся,*
*Падзякваў, развітаўся.*




*Цешыцца, гаворыць: — Дзеці,*
*Хутка «Зорка» нам засвеціць,*
*Дзецям гарадскім, вясковым*
*Будзе свяціць родным словам.*

## ПРЫКАЗКІ і ПРЫМАЎКІ

**Ад чорта крыж маеш, а од ліхога чалавека, нічога.**

**Ен не чуе як сказаць дай! а як на! — нібось, пачуе.**

**Не ўсякай чутцы вер.**

**Хто чужога не шануе, свайго мець не будзе.**

Галоўны рэдактар ГЕОРГІ ВАЛКАВЫЦКІ

Орган Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы Адрас рэдакцыі гор. Беласток, вул. Маніфесту Ліпцовага 25, тэл. 25 89 Умовы падпіска на 3 месяцы — 7 зл. 20 гр., 6 месяцаў — 14 зл. 40 гр., на год — 28 зл. 80 гр. Konto NBP I Oddz. Miejski Nr 102-7-161 Падпіску прымаюць усе паштовыя ўстановы, пісьманосцы, Выдавецтва РСВ «Праса». Паліграфічнае прадпрыемства ў Беластоку. Т-10